# ПАГОНЯ

Чацвер
29 чэрвеня 2000 г.
№ 23 (470)
Кошт 70 рублёў


## Чэрвеньскія маразы папсавалі пасевы

**На Гарадзеншчыне чэрвеньскімі замаразкамі пашкоджана 6 834 гектары пасеваў сельскагаспадарчых культур.**

Найбольш значная шкода аграпрамысловаму комплексу нанесена стыхіяй у ноч з 18 на 19 чэрвеня. Тады на трох з шасці метэастанцыяў, якія ёсць у вобласці, было зарэгістравана да 3 градусаў марозу. Больш за ўсё пацярпела кукуруза. Яе пасевы пашкоджаны на плошчы 3 866 гектараў. Замаразкі таксама пашкодзілі 1 360 гектараў бульбы і 780 гектараў грэчкі. У некаторых месцах пацярпелі пасевы ячменю, цукровых буракоў і яравога рапсу.

Найбольш істотныя пашкоджанні пасеваў адзначаны ў Мастоўскім і Гарадзенскім раёнах, дзе пашкоджана адпаведна 1 010 і 984 гектары сельскагаспадарчых культураў.

## Свіцязь аддалі ў арэнду

**Возера Свіцязь перадаецца ў арэнду на 10 гадоў Баранавіцкаму аддзяленню Беларускай чыгункі. Такое рашэнне прыняў Навагрудскі раённы савет дэпутатаў, задаволіўшы адпаведнае хадайніцтва чыгуначнікаў.**

Бліжэйшым часам паміж Навагрудскім райвыканкамам і Баранавіцкім аддзяленнем Беларускай чыгункі будзе падпісаны дагавор аб перадачы возера ў арэнду. Робіцца гэта ў мэтах арганізацыі летняга адпачынку турыстаў, а таксама аматарскага платнага рыбалоўства. Прамысловая лоўля рыбы і зарыбленне возера новымі відамі ў бліжэйшай будучыні не плануецца. Аддзяленне чыгункі таксама збіраецца заключыць дагавор з лабараторыяй возеразнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта, навукоўцы якой будуць вывучаць працэсы, што адбываюцца ў вадаёме, і даваць рэкамендацыі.

Паколькі возера Свіцязь уваходзіць у склад ландшафтнага заказніка рэспубліканскага значэння, кантроль за ім з боку санітарных службаў, прыродаахоўных і праваахоўных органаў захаваецца.

## Наркаманаў становіцца болей

**На Гарадзеншчыне расце злачыннасць, звязаная з незаконным абаротам наркотыкаў.**

З пачатку года ў вобласці зарэгістравана 187 злачынстваў, канфіскавана каля 7 кілаграмаў гатовых наркотыкаў і 106 кілаграмаў наркаўтрымліваючай сыравіны. Для параўнання: за аналагічны леташні перыяд было выяўлена 111 злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам і ўжываннем наркотыкаў. Найбольшае распаўсюджанне маюць макавая саломка і канапля. І толькі каля 10 працэнтаў наркотыкаў прывазныя, сярод якіх - марыхуана і какаін. Росту злачыннасці садзейнічае павелічэнне ўжывання зелля.

На сёння ў вобласці афіцыйна зарэгістравана каля 400 хворых на наркаманію. Згодна з міжнароднай методыкай, прынята лічыць, што на аднаго выяўленага наркамана прыпадае 5-10 скрытых. Таму, як лічаць спецыялісты, афіцыйная статыстыка далёка не адлюстроўвае сапраўднага маштабу праблемы.

**Ася Куніцкая**

## НАДВОР'Е

**30 чэрвеня, 1 ліпеня** - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер заходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра **30 чэрвеня** - уначы +8...+13, удзень +15...+20; **1 ліпеня** - уначы +10...+14, удзень +17...+22.

# Пагутарылі...




**26 чэрвеня адбылася гутарка паміж суддзём Ленінскага раёна г.Гродна Аляксандрам Дзядзелем і прадпрымальнікам Анджэем Пісальнікам. Падставай стала скарга на адмову гарвыканкама ва ўзгадненні размяшчэння газеты «Рэпарцёр».**

**Гутарка была незвычайнай.** Хаця б з той прычыны, што разам з заснавальнікам газеты Анджэем Пісальнікам у суд прыйшлі прадстаўнікі грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя журналістаў» - віцэ-прэзідэнт Анатоль Гуляеў і кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ, прафесар права Міхаіл Пастухоў; тры прадстаўнікі Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі, а таксама група мясцовых журналістаў. Ад гарадской улады быў юрыст Валерый Шанціла.

**Гутарка была працяглай.** Суддзя Дзядзель доўга спрабаваў зразумець сутнасць спрэчкі і высветліць доказы бакоў. Многае ў гэтай спрэчцы было для яго, мяркуючы па ўсім, новым. Размова ішла пра беспрэцэдэнтны ў Беларусі выпадак - Гарадзенскі гарвыканкам вырашыў не даваць згоды на размяшчэнне незалежнай газеты на тэрыторыі горада са спасылкай на артыкул 9 Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» і на мясцовыя асаблівасці. Анджэй Пісальнік і Міхаіл Пастухоў пераконвалі суддзю ў тым, што такая адмова груба парушае канстытуцыйные правa грамадзянаў на свабоду слова і на свабоднае заснаванне друкаваных СМІ. Па сутнасці, рашэнне гарвыканкама стала непераадольнай перашкодай на шляху рэгістрацыі газеты ў Дзяржкамітэце па друку. І дзеянні мясцовых чыноўнікаў ёсць ні што іншае як ушчамленне свабоды слова, а гэта з'яўляецца адміністратыўным правапарушэннем, што можа абысціся ім у штраф ад 10 да 50 мінімальных заробкаў.

Валерый Шанціла прывёў довад адносна таго, што выканкам мае права даць згоду на размяшчэнне на яго тэрыторыі прадпрыемстваў, установаў і аб'яднанняў, якія не знаходзяцца ў камунальнай уласнасці. А можа і не даць. У дадзеным выпадку выканкам палічыў немэтазгодным даваць сваю згоду на размяшчэнне газеты «Рэпарцёр». Гэта, так бы мовіць, воля ўлады.

На мове юрыстаў мэтазгоднасць, якая падмяняе закон называецца цалкам акрэслена - злоўжываннем уладай, калі пры гэтым парушаюцца правы і свабоды грамадзянаў. І размова са службовымі асобамі, што спасылаюцца на праслаўтую мэтазгоднасць, павінна быць строгай. Інакш законнасць урэшце рэшт можа ператварыцца ў звычайнае самадурства.

**Гутарка сталася безвыніковай.** Суддзя ўсіх выслухаў і, падаецца, разабраўся ў праблеме. Але вось вырашыць яе ён збіраецца не раней, чым тыдні цераз тры.

А заснавальнік увесь гэты час павінен чакаць. Хто адкажа за вымушаны прастой? Чаму ўлады не дазваляюць добрую справу? Ці будзе нехта адказваць за нанесеныя страты, калі рашэнне адносна ўзгаднення газеты ўрэшце рэшт будзе прынята? Можа, гарвыканкам альбо асабіста яго старшыня?

**Міхаіл Пастухоў, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры грамадскім аб'яднанні БАЖ, прадстаўнік заснавальніка газеты «Рэпарцёр»**

## Кангрэс аддаў пашану Хрысту

**23-25 чэрвеня ў Гродне адбыўся І Дыяцэзіяльны Эўхарыстычны кангрэс. Прайшоў ён пад дэвізам «Ісус Хрыстос учора, сёння і назаўсёды». Удзел у мерапрыемствах узяў і прадстаўнік Папы Рымскага на Беларусі, апастальскі нунцый Дамінік Грушоўскі.**

Падобныя Эўхарыстычныя кангрэсы адбываюцца ва ўсім свеце. Ідэяй іх ёсць гуртаванне вернікаў пад кіраўніцтвам свайго біскупа з мэтай аддання Хрысту належнай пашаны, а таксама паглыбіць свае веды пра Бога.

Гарадзенская дыяцэзія была створаная не так даўно і таму гэты Кангрэс першы ў яе гісторыі. Аднак, нягледзячы на гэта, паведамілі нам у адміністрацыі дыяцэзіі, «ён стаўся значнай падзеяй і павінен абавязкова прывесці да абуджэння культу Хрыста ў народзе».

**Павал Мажэйка**

## ТБМ жыве!

**У нядзелю, 25 чэрвеня, у Гродне адбылася абласная канферэнцыя Таварыства Беларускай Мовы. На ёй было разгледжана пытанне вылучэння кандыдатаў на Усебеларускі З'езд і абмеркаваная сітуацыя з адкрыццём Нацыянальнага Універсітэта.**

**У канферэнцыі ўзяў удзел Алег Трусаў. Ён паведаміў, што сабрана ўжо каля 30 тысяч подпісаў за адкрыццё універсітэта. Ідэю стварэння нацыянальнай ВНУ падтрымала больш як восем тысяч жыхароў Ліды. Таму менавіта ў гэтым горадзе плануецца адкрыць філію універсітэта.**

**Іван Паўлёнак**

## Гарадзенскі шар у небе Расеі

**Гарадзенскі аэраклуб з поспехам выступіў на шостым адкрытым чэмпіянаце Расеі па паветраплаванні, які адбыўся 11-18 чэрвеня ў Вялікіх Луках пад Псковам.**

Паветраны шар «Белкард» нашага аэраклуба, кіруемы майстрамі Канстанцінам і Святланай Царыкамі, Дзянісам Духоніным, Юрыем Габінскім, заняў шостае месца сярод 36 шароў-удзельнікаў з Расеі, Літвы, Беларусі.

Першага ліпеня паветраная каманда гарадзенцаў возьме ўдзел у авія-шоу пад Менскам. Сёння ў клубе яшчэ ідуць апошнія прыгатаванні, удасканальваюцца лётныя элементы.

На жаль, з-за фінансавых праблемаў пад пытаннем правядзенне падобнага лётнага шоу ў Гродне, якое мінулым летам наведалі тысячы гарадзенцаў.

Як паведаміла ПАГОНІ кіраўніцтва аэраклуба, «на Фестываль нацыянальных культураў з бюджэту горада пайшло шмат грошай і, па ўсім відаць, авія-шоу пакуль нікому не патрэбнае».

## Названы лепшыя аптэкі горада

**Дзве гарадзенскія аптэкі N135 па БЛК і N153 па вуліцы Дзяржынскага былі прызнаныя лепшымі сярод гарадскіх аптэк вобласці на конкурсе «Аптэка года 1999», які праводзіла аб'яднанне «Фармацыя».**

Сярод шматлікіх прафесійных крытэрыяў, паводле якіх адбіралі пераможцаў, былі і, бадай, галоўныя для жыхароў: «эстэтычны выгляд аптэкі» і «ўменне працаваць з наведвальнікамі».

Конкурс праводзіўся па трох намінацыях: лепшая раённая, лепшая гарадская і лепшая вясковая аптэка.

Лепшай раённай аптэкай была названа 136-я Ваўкавыская, а сельскіх пераможцаў было зноў двое - аптэка N140 гарадскога пасёлка Рось і 34-я аптэка ў Васілішках.

Калектывы ўсіх аптэк-намінантаў былі адзначаныя грашовымі прэміямі ў памеры ад 5 да 160 тысяч рублёў.

Праведзены конкурс на лепшую аптэку знамянальны тым, што ён першы. А ці стане ён традыцыйным, залежыць ад таго, ці знойдзе аб'яднанне «Фармацыя» сродкі на прызы і прэміі. Ганаровымі граматамі сёння нікога не задаволіш.

**Павал Мажэйка**

## Яндзіеў атрымаў часовую прапіску

**Газета ПАГОНЯ (ад 22 чэрвеня 2000 года) паведамляла пра пакуты былога жыхара чачэнскай сталіцы Грознага Якуба Яндзіева. У Гродне гэты грамадзянін Расеі жыве разам з жонкай і дзецьмі ў кватэры цешчы. Аднак аддзел пашпартна-візавай службы АУС Ленінскага раёна адмовіў яму ў рэгістрацыі, якая дае права для прадаўжэння знаходжання ў нашым горадзе. Быў вызначаны 10-дзённы тэрмін для выезду сям'і з Гродна.**

Да справы падключыліся праваабаронцы абласнога аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта. Як паведаміў яго старшыня Аляксандр Антанюк, Якуб Магаметыч Яндзіеў атрымаў з міліцыі пісьмовае паведамленне. Яму дазволена часовая прапіска.

Дом, у якім жыў разам з сям'ёю ў цэнтры Грознага грамадзянін Расейскай Федэрацыі Якуб Яндзіеў, цалкам разбураны падчас баявых дзеянняў паміж нацыянальна-вызваленчымі сіламі Ічкерыі і расейскімі вайсковымі аддзеламі.

**Антон Лабовіч**

# «Адраджэнне» - Фронт, а не фальклорная суполка

**У ноч з аўторка на сераду быў абраны новы старшыня Гарадзенскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне». Дэлегаты гарадской справаздачна-выбарчай канферэнцыі аднагалосна пераабралі на гэтую пасаду Сяргея Мальчыка. Ён ужо ў чацвёрты раз узначаліў Раду самай масавай арганізацыі ў горадзе.**

«Начное» галасаванне не было выклікана нейкай надзвычайнай канспірацыяй. Перадвыбарчыя жарсці, у якіх, відавочна, асноўную ролю адыграе Фронт, былі пасля пераабрання старшыні ледзь не асноўнай тэмай канферэнцыі. У сувязі з гэтым добрая частка дэлегатаў жадала выказаць свае меркаванні і даць павучанні.

У адрозненне ад мінулых гадоў, гэтым разам у другую апазіцыйную сталіцу Беларусі, як называюць Гродна ў асяроддзі дэмсілаў, не здолеў прыехаць ніводны прадстаўнік цэнтральнага кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне». Прыезду не спрыяў ні позні час правядзення канферэнцыі, ні міжнародная нарада ў Варшаве па праблемах дэмакратыі, дзе лідары апазіцыйных сілаў Беларусі сустракаліся з Мадлен Олбрайт.

У сваёй справаздачы Сяргей Мальчык дакладна акрэсліў пазіцыю Фронту ў дачыненні да аб'яднання ўсіх дэмакратычных сілаў: «Дзякуючы аб'яднанню вырас аўтарытэт Фронту. У нас ёсць людзі, але няма тэхнічных і матэрыяльных сродкаў. Сам па сабе Фронт нічога не зробіць».

Як галоўнае і безумоўнае дасягненне было падкрэслена тое, што Гродна стаў адзіным горадам на Беларусі, дзе фронтаўскія структуры не сталіся расколатымі.

Аднак не ўсе дэлегаты канферэнцыі засталіся задаволеныя дзеяннямі і пазіцыяй кіраўніцтва Гарадзенскага БНФ «Адраджэньне».

> **Вячаслаў Сіўчык, намеснік старшыні БНФ «Адраджэньне»: «Сяргей Мальчык - вельмі вядомы чалавек у Гродне і ў БНФ. Нездарма яго ў чарговы раз абралі старшынём Гарадзенскай арганізацыі. Дзякуючы Мальчыку, пазіцыі Фронту ў Гродне даволі моцныя. Ёсць магчымасці як для павелічэння шэрагаў, так і для падвышэння аўтарытэту БНФ у Гродне. Надыходзіць час, калі можа вырашыцца лёс Беларусі, і тут дасведчанасць ды здольнасці Сяргея Мальчыка абавязкова спатрэбяцца».**

«У нас фальклорная суполка, а не Фронт»; «мы сёння тут расказваем пра свае дасягненні, а Лукашэнка там здае Беларусь»; «трэба выходзіць у народ, а не сядзець пяцёх і агітаваць адзін аднаго» - гэта толькі некалькі рэплікаў, якія гучалі ў зале падчас канферэнцыі.

І ўсё ж нягледзячы на недахопы, мінулагодняя дзейнасць гарадзенскага кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» была ацэненая станоўча. Патаемнае галасаванне і аднадушнасць дэлегатаў пры пераабранні старшыні засведчылі безумоўны аўтарытэт Сяргея Мальчыка сярод сябраў Фронту.

Крызіс у Фронце, які пачаўся пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 года, яшчэ не пераадолены. Далёкая ад стабільнай сітуацыя і ў Гродне. Амаль ніводнага разу ў мінулым годзе сябры Рады не здолелі сабрацца ў поўным складзе. З іншага боку - гучныя гарадзенскія масавыя акцыі. У Фронт зноў пайшлі людзі. Значыць вераць, чакаюць. Самы малады дэлегат канферэнцыі меў усяго 14 гадоў. Значна амаладзілася і абяцае быць дзеяздольнай новаабраная Рада. Прадстаўнік «Маладога Фронту» Сяргей Антусевіч заняў пост намесніка старшыні. Кульмінацыяй дзейнасці БНФ «Адраджэньне» на бліжэйшы год Сяргей Мальчык вызначыў прэзідэнцкія выбары - «шанец ціха, спакойна змяніць уладу».

Наступная справаздачна-выбарчая канферэнцыя, відавочна, адбудзецца ў прынцыпова іншых умовах. Што гэта будзе - радасць перамогі ці сцэна знямення - цалкам залежыць ад дзейнасці Фронту.

**Павал Мажэйка**

# Ці варта лезці ў выбарчую пастку?

**Вось, падаецца, і скончылася ўсё тое, што было гучна названа і разрэкламавана сённяшняй уладай, як «шырокі дыялог» з апазіцыяй.**

Як звычайны шэраговы грамадзянін з глыбінкі, я дакладна ведаю пра тое, што адбываецца на самым версе ў асяродку галоўных апазіцыйных палітычных партыяў краіны, аб'яднаных у Каардынацыйную Раду «васьмі». Яе разам з КНГ АБСЕ ў Беларусі і спадаром Хансам-Георгам Вікам «пракінуў» з перамовамі Аляксандр Лукашэнка, нягледзячы на вядомыя Санкт-Пецярбургскую і Стамбульскую рэзалюцыі. Але ўжо ў той дзень, калі яшчэ не паспела апусцець зала ў Палацы Рэспублікі ад удзельнікаў дыялогу, прагучала заява лідара беларускіх ліберал-дэмакратаў, якая вельмі насцярожвае. Заява менавіта аднаго з тых, хто ўваходзіць у знакамітую «васьмёрку» тых самых галоўных і найбольш уплывовых партыяў на Беларусі. Хаця спадар Гайдукевіч даволі цьмяна і на невядомы адрас выказаўся пра нейкія там сепаратныя перамовы, якія вядуць за межамі краіны прадстаўнікі некаторых партыяў. У той час як ён і яго партыя кіруюцца інтарэсамі Беларусі і яе народа. З усяго сказанага зразумела, што ЛДПБ знoў выбрала свой асаблівы шлях. Гэты шлях на ўдзел у выбарах азначае адно - выхад ліберал-дэмакратаў з Каардынацыйнай рады і яе раскол. Фактычна Гайдукевіч даў згоду на ўдзел у маючых адбыцца выбарчых спаборніцтвах, яшчэ не вядомы дакладна, па якіх правілах яны будуць праводзіцца. Што б гэта значыла?

На мой пагляд, з усяго гэтага можа вынікаць толькі наступнае. Лукашэнкаўскія прапагандысты і эмісары, якія абслугоўваюць так званыя дыялогі, дарма хлеб не ядуць. Вось і атрымліваецца, што іх тайныя сепаратныя кантакты, якія ажыццяўляюцца паводле прынцыпу «падзяляй і ўладар», ужо далі першыя вынікі. Гайдукевіч трапіў у адмыслова пастаўленае лаўцамі сіло. І мяне не здзіўляе, што гэта адбылося менавіта з ім. Для гэтага дастаткова нагадаць пра згодніцкую пазіцыю гэтага палітыка, якую ён займаў у часы яшчэ кэбічаўскага праўлення. Але лідар беларускіх ліберал-дэмакратаў, напэўна, не першы, і магчыма, не апошні ўдалы ўлоў гэтай палітычнай рыбалкі. Да гэтага ў палітычным сачку галоўнага беларускага «рыбалова» была пакуль адна толькі палітычная драбната, накшталт «генерал-патрыёта» Баранкевіча, «міжнароднага праваабаронцы» Новікава, яблычніцы Абрамавай ды розных там аматараў жывой і нежывой прыроды, якіх цяжка пералічыць ды якіх і лавіць не трэба было - яны самі туды паналезлі. Вось чаму заява «раскольніка» Гайдукевіча так хутка і з такім задавальненнем была растыражавана БТ, бо ён, безумоўна, мае больш значны палітычны калідор.

На мой пагляд, пасля гэтак званага «дыялогу» не трэба ўводзіць сябе ў зман і думаць, што ў краіне будуць праведзены напраўду справядлівыя выбары. У сённяшняй Беларусі гэта немагчыма з вельмі многіх прычынаў. Але перш за ўсё немажліва з-за таго, што гэтага не хоча і ніколі не дапусціць рэанімаваная і ў поўным аб'ёме адбудаваная ў краіне камуна-наменклатурная сістэма ўлады. І тут нічога не зробіш - такая ў гэтай улады прырода, якая нічога апроч сілы не прызнавала і не прызнае, а як вядома, клін выбіваюць клінам.

Так што не трэба лезці ў тую пастку, якую ўлады называюць выбарамі, у так званы палатачны парламент. Гэта можа стаць апошняй лебядзінай песняй усяго дэмакратычнага і незалежніцкага руху ў Беларусі. Ужо даволі даўно ў Беларусі сапраўдных выбараў ніхто не праводзіць. А жадаючых (у каго ўсё ў норме са здаровым сэнсам) гуляць у гульню з уладай пад назвай «выбары», у якой цябе стрыножаць і затыкнуць рот, упэўнены, знойдзецца няшмат. І кажу я пра гэта не дзеля прыгожых словаў, а з веданнем справы, што называецца знутры, зыходзячы са свайго багатага досведу ўдзелу ў многіх выбарах, у тым ліку і ў апошніх, якія праводзіліся ў мясцовыя Саветы ў мінулым годзе.

Дык вось, на гэтых так званых «выбарах» мне, як кандыдату ў дэпутаты, ніводнага слова не далі сказаць пра мясцовыя сродкі інфармацыі: раённую газету і мясцовае радыё. Не выдалі, як таго патрабуе закон, агітплакат. Затым мяне выключылі, але пазней вымушаныя былі пад пагрозай суда ўзнавіць мяне ў кандыдатах, і не дапамаглі мне аніякія скаргі ў самыя розныя інстанцыі. А ўжо пасля заканчэння сфальсіфікаваных выбараў мяне самога па сфабрыкаванаму абвінавачванню раённая пракуратура па заказу раённай тэрытарыяльнай камісіі пацягнула ў суд, распачала адміністрацыйную справу паводле артыкула 167-3 КоАП РБ (заклік да байкоту выбараў). І вось на такія выбары нас сёння запрашае хлусілвая і вераломная ўлада. А таму на пытанне удзельнічаць альбо не ўдзельнічаць у такіх выбарах апазіцыі можа быць толькі адзін адказ - не.

Вось чаму тыя, хто сёння з дэмакратычнага крыла заклікае да ўдзелу ў выбарах у кішэнны палатачны парламент, выклікаюць у мяне, выбачайце, два пачуцці. Першае: ці то яны - палітычныя слепакі і дылетанты, ці то ў іх не ўсё ў норме з галавою. Другое: гэта, магчыма, проста прадажныя прыстасаванцы і пярэваратні, якія дзеля сваіх асабістых шкурных інтарэсаў і дзеля, напэўна, абяцаных ім міфічных дэпутацкіх мандатаў гатовыя загубіць нашу агульную нацыянальную справу вяртання Беларусі на шлях незалежнага дэмакратычнага развіцця.

Не трэба панікаваць і адчайвацца. Вырашальная перамога можа быць дасягнутая і ў апошняй пераможнай бітве. А яна ўжо не за гарамі.

**Мікалай Уласевіч, намеснік старшыні Астравецкай раённай арганізацыі АГП**

# «Рэгіянальная Беларусь»: новыя ініцыятывы

**24 чэрвеня ў Магілёве адбылося чарговае пасяджэнне Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь». Як паведаміў яе каардынатар, сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканння Сямён Домаш, удзел у рабоце прымалі паўнамоцныя прадстаўнікі дэмакратычных палітычных партыяў, аб'яднанняў, незалежных і свабодных прафсаюзных арганізацыяў усіх абласных цэнтраў, а таксама шэрагу буйных прамысловых гарадоў краіны.**

Аднагалосна прынята заява ў падтрымку ініцыятывы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па стварэнні Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэта і яго філіялаў у Лідзе, Пінску, Оршы, Нясвіжы ды іншых гарадах рэспублікі. Выказана трывога за сучасны стан беларускамоўнага навучання. Дзяржаўная палітыка ў гэтым кірунку злачынна не ўлічвае вынікі карыстання роднай мовай, атрыманыя ў час перапісу насельніцтва-99.

Распрацавана і ўхвалена канцэпцыя міжрэгіянальнага інфармацыйнага забеспячэння рэгіянальных няўрадавых грамадскіх аб'яднанняў. На базе Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» паўстане інфармацыйны цэнтр, а на месцах - адпаведныя аддзелы. Неўзабаве пачнецца абмен інфармацыяй паміж арганізацыямі, якія ўваходзяць у склад Каардынацыйнай Рады. У гэтым жа рэчышчы ўдзельнікі пасяджэння палічылі за неабходнае ў блізкай перспектыве мець агульны друкаваны орган - штомесячны бюлетэнь «Рэгіянальная Беларусь».

Падтрымана ідэя склікання 4-га Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі, які мяркуецца правесці ў Менску другога ліпеня. Вырашана прапанаваць да разгляду дэлегатаў гэтага форуму пытанне наконт стварэння Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў краіны і прыняць канцэпцыю яе фармавання і працы непасрэдна падчас работы Кангрэсу; таксама ўключыць у склад Рады Кангрэсу па аднаму паўнамоцнаму прадстаўніку ад кожнай вобласці з правам вырашальнага голасу. Вылучэнне гэтых прадстаўнікоў мяркуецца правесці на абласных канферэнцыях дэмакратычных палітычных, грамадскіх і прафсаюзных арганізацыяў. Ад імя Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь» на Кангрэсе даручана выступіць Сямёну Домашу.

Прыняты зварот да кіраўнікоў палітычных, грамадскіх, прафсаюзных арганізацыяў горада Менска. У прыватнасці, дакумент заклікае палітыкаў і грамадскіх дзеячаў сталіцы аб'яднаць усе арганізацыі дэмакратычнага кірунку ў адпаведны адзіны Каардынацыйны цэнтр, як гэта ўжо зроблена ў рэгіёнах і накіраваць сваіх прадстаўнікоў у Каардынацыйную Раду «Рэгіянальная Беларусь». Гэта прапанова зроблена і іншым дэмакратычным арганізацыям буйных гарадоў, дзе яшчэ не створаныя аб'яднанні.

Удзельнікі магілёўскай нарады пацвердзілі ўдзел сябраў сваіх дэмакратычных палітычных, грамадскіх і прафсаюзных аб'яднанняў у маючым адбыцца 29 ліпеня бягучага года Усебеларускім з'ездзе. Было падкрэслена, што кожны жыхар Беларусі павінен дакладна ведаць дзень, месца і час правядзення сходаў па вылучэнню дэлегатаў форуму, мець уласнае перакананне адносна яго неабходнасці, ведаць, якія дакументы прапануюцца да абмеркавання і ўхвалення.

Сярод іншых дакументаў, прынятых Каардынацыйнай Радай «Рэгіянальная Беларусь», вылучаецца заява-зварот да славутага касманаўта Пятра Клімука, ініцыяваная Каардынацыйнай радай «Берасцейскае пагадненне». Беларускія дэмакратычныя сілы заклікаюць двойчы Героя Савецкага Саюза, ураджэнца Берасцейшчыны адмовіцца ад плану правядзення сумніўнага з'езда так званай Саюзнай Грамадзянскай Палаты.

**Антон Лабовіч**

# Вылучылі дэлегатаў на Кангрэс дэмсілаў

**Дэмакратычныя арганізацыі Гарадзеншчыны вылучылі дэлегатаў на маючы адбыцца другога ліпеня ў менскім Палацы культуры «Сукно» 4-ы Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі.**

Асноўныя беларускія партыі - АГПБ, БНФ, СДП «НГ», БСДГ - атрымалі квоту па вылучэнню 80 дэлегатаў кожная. Сябры партыі Працы і жаночай арганізацыі «Надзея» займелі па 40 месцаў. Свабодны і Незалежныя дэмакратычныя прафсаюзы - разам 100, абласныя аб'яднанні грамадскіх арганізацыяў - па 40. Не пакінута без увагі навуковая і творчая інтэлігенцыя, Таварыства беларускай мовы. Да ўдзелу ў Кангрэсе запрошаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў.

Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва» абраў 21 дэлегата. Шэсць месцаў аддадзена прадстаўнікам незалежнага рэгіянальнага друку - газетам ПАГОНЯ, «Биржа информации», «Репортёр», «Glos znad Niemna», «Газеце Слонімскай», «Новай газеце Смаргоні».

Сваіх прадстаўнікоў на Кангрэс вылучылі таксама шматлікія няўрадавыя грамадскія арганізацыі вобласці. Усяго ў форуме возьме ўдзел каля 900 дэлегатаў з усяе Беларусі.

**Сцяпан Ярашчук**

# Партыя Пазьняка - супраць

**Грамадскае аб'яднанне «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і Кансерватыўна-хрысціянская партыя - БНФ не будуць прымаць удзел у Кангрэсе дэмакратычных сіл Беларусі, правядзенне якога прызначана на 2 ліпеня ў Менску. Аб гэтым гаворыцца ў звароце, падпісаным кіраўніком гэтых арганізацый Зянонам Пазняком і адказным сакратаром управы Анатолем Крываротам.**

Кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту на чале з З.Пазьняком лічыць, што правядзенне Кангрэса дэмакратычных сіл у перыяд падрыхтоўкі Усебеларускага з'езда за незалежнасць, які запланаваны на 29 ліпеня, адцягне ўвагу і сілы ад гэтага найважнейшага мерапрыемства. «Скліканне падчас падрыхтоўкі да Усебеларускага з'езда кангрэса з паралельнымі задачамі - гэта... мэтанакіраваная дзейнасць па дэвальвацыі самой ідэі гэтай вялікай грамадскай ініцыятывы», - гаворыцца ў звароце. На думку кіраўніцтва згаданых арганізацый, палітычны адносінаў да планаемых беларускімі ўладамі выбараў у парламент, якія павінны абмяркоўвацца на Кангрэсе дэмакратычных сіл, кожная партыя, у адпаведнасці са сваім статутам, вырашае самастойна. Грамадскае аб'яднанне «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і Кансерватыўна-хрысціянская партыя - БНФ прынялі рашэнне аб няўдзеле ў парламенцкіх выбарах.

**Генадзь Барбарыч**

# Мастакі «здаваліся» публічна

**У мінулы чацвер і пятніцу ў Гродне ўпершыню прайшла публічная абарона дыпломаў выпускнікоў ГрДзУ.**

Былі незвычайнымі як сама падзея, так і месца яе правядзення. На сённяшні дзень галерэя «Тызенгаўз» афіцыйна перапыніла сваю дзейнасць у сувязі са зменай гаспадароў. Аднак нават у такой сітуацыі былы яе дырэктар Аляксандр Ларыёнаў палічыў за магчымае запрасіць у тызенгаўзаўскія залы студэнтаў-выпускнікоў, экзаменацыйную камісію і цікаўную публіку.

Экзаменацыйную камісію ўзначаліў прадстаўнік Беларускай акадэміі мастацтваў Леанід Дзягілеў. Ад Гарадзенскага універсітэта ў склад камісіі ўвайшлі Антон Ляшчынскі, Аляксей Багустаў, Юрый Пацюпа ды іншыя. На працягу двух дзён, калі праходзіла абарона, адзінаццаць маладых мастакоў і культуролагаў з кафедры выяўленчага мастацтва факультэта псіхалогіі і педагогікі паказалі вынікі сваёй працы.

Дыпломныя работы былі на самыя розныя тэмы - графіка, прыклад распрацоўкі фірменнага стылю прадпрыемства, жывапіс, мастацкі роспіс тканіны ды іншыя. За сябе гаворыць той факт, што усе дыпломныя работы маладых спецыялістаў так ці інакш тычацца нашага роднага горада. Таццяна Ачкоўская паказала акварэльную серыю «Гарадзенскі пейзаж» з вельмі лірычным, пяшчотным бачаннем старажытных і сучасных мясцінаў Гродна. Нізку графічных аркушаў Аляксея Даpашэнкі «Геній месца» рэцэнзент Юрый Якавенка ацаніў на «пяцёрку з плюсам». Аляксей прапанаваў свой арыгінальны вобраз анёла-ахоўніка ў экстрэмальных зямных умовах. Босыя крылатыя анёлы блукаюць па вуліцах К.Маркса, Урыцкага ды іншых на фоне цалкам рэалістычнага гарадскога пейзажу жывуць міфічныя істоты. Аўтар з добрай ironіяй паказаў нашу дарэмную «суету сует» у параўнанні з вечным.

На публічнай абароне дыпломаў быў нават міні-паказ мод. Такім чынам Ларыса Пярвушына прадэманстравала экзаменацыйнай камісіі сваю дыпломную работу - мадэль «Дрэва жыцця». Ларыса прафесійна распісала тканіну, а супрацоўнікі прадпрыемства «Сілуэт» стварылі прыгожы ўбор, які стаў візітнай карткай III Фэсту нацыянальных культураў у Гродне. Дарэчы, манекеншчыцай на паказе выступіла таксама дыпломніца Лера Яршова.

Ірына Пархута са сваёй нізкай графічных аркушаў па матывах беларускіх народных баек стала адкрыццём двухдзённай абароны дыпломаў. Юрый Якавенка, вядомы гарадзенскі графік, вельмі высока ацаніў майстэрства Ірыны: «Калі ёсць ва універсітэце ўзнагароды за лепшую дыпломную работу - Ірына яе дастойная. Гэты чалавек надзелены Богам пачуццём лініі. Я лічу, што перад намі - самародак». Персанажамі графічнай лініі Ірыны сталі вядомыя героі народных баек - крумкач, вяпрук, рачныя рыбы, воўк, мядзведзь. Дзіва, але ўсе жывёліны - са сваім характарам і нават «выразам твару».



**Старшыня Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, дацэнт, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў Леанід Дзягілеў адчыняе выставу дыпломных работ у галерэі «Тызенгаўз»**

Старшыня экзаменацыйнай камісіі Леанід Дзягілеў заўважыў, што «ў Гродне адбываецца працэс станаўлення мастацкай спецыяльнасці вышэйшай кваліфікацыі. Расце свая школа графікі».

Дзякуючы ідэі публічнай абароны дыпломаў, гэтая падзея стала сапраўды незабыўнай жыццёвай вяхой для дыпломнікаў і цікавай для гараджанаў. У атмасферы, набліжанай да аўры мастацкага салона і навуковых дэбатаў, можна было спрачацца і задаваць пытанні, а таксама на імгненне стаць сведкай станаўлення новага мастацкага пакалення нашага горада.

**Алена Сіневіч**

# «Не забівайце нас, людзі!»

## (ПАГОНЯ №22 ад 22 чэрвеня)

**У мінулым нумары ПАГОНІ быў надрукаваны артыкул Таццяны Капыловай «Не забівайце нас, людзі!». Днямі Таццяна Капылова паведаміла нам: «Пасля таго, як артыкул быў здадзены ў рэдакцыю, мы з Юрыем Аўчыннікавым былі на прыёме ў намесніка старшыні гарвыканкама А.Кунаша».**

Пасля доўгай размовы ініцыятару стварэння грамадскай арганізацыі «Таварыства абароны жывёлаў» Ю.Аўчыннікаву быў выдадзены гарантыйны ліст на атрыманне юрыдычнага адрасу. Магчыма, гэтаму дапамаглі подпісы, сабраныя на пікеце. Дзякуй А.Кунашу за гэта.

Што да патрабавання, якое стаяла пад нумарам адзін у звароце да старшыні гарвыканкама А.Пашкевіча (неадкладна на пасяджэнні гарвыканкама разгледзець праблему бязлітаснага стаўлення людзей да жывёлаў і раслінаў), то А.Кунаш адказаў, што гэтая праблема на пасяджэнні гарвыканкама разглядацца не будзе. А на пытанне, ці будуць працягвацца садысцкія забойствы жывёлаў, ён вымавіў: «Собаки и коты разносят болезни. Задача властей - уничтожать их всеми возможными средствами».

- Нават не хачу рабіць каментараў на такую пазіцыю намесніка гарвыканкама. На прыём да А.Пашкевіча мы не трапілі, бо ён у адпачынку. Магчыма, ён думае інакш? Але асабіста ў мяне, - кажа Таццяна Капылова, - надзея на тое, што ўлады возьмуцца за гэтую праблему, вельмі слабая. Уся надзея толькі на грамадскасць, на добрых, неабыякавых людзей.

11 ліпеня а 18-й гадзіне ў памяшканні галоўнага корпуса Гарадзенскага універсітэта (вуліца Ажэшкі,22, аўдыторыя 125) адбудзецца арганізацыйны сход «Таварыства абароны жывёлаў». Запрашаем усіх, каго хвалюе гэтая праблема.

**Ул.інф.**

* * *

Паважаная Таццяна Капылова! Як толькі ўбачыла на першай старонцы газеты назву Вашага артыкула, адразу нешта балюча заварушылася ў сэрцы. Бо Вы ўзнялі тэму, якая з самога дзяцінства і па сённяшні дзень хвалюе мяне. І не так, як хвалюе простага чалавека ці дзіця: «Ой, коцік, сабачка...» і г.д. Я - за правы гэтых жывых істотаў. Заўсёды хацела зрабіць нешта для іх, абараніць - але што?

Мне 17 гадоў. Толькі што пакінула вялікую школьную сям'ю. Але за сваё семнаццаць гадоў я так і не знайшла аднадумцаў у абароне жывёлаў. Дык што ж я магла зрабіць зусім адна, сам-насам са сваімі думкамі і памкненнямі. І вось - Ваш артыкул, як з неба...

Заўсёды хвалюецца сэрца, калі гляджу рэкламу Greenpeace, ці слухаю па радыё, як недзе на Захадзе тыя ж самыя абаронцы жывёлаў зладзілі пікет каля чарговага буціка, які гандлюе адзеннем са скуры жывёлаў; ці плывуць па акіянах побач з кітабойнымі суднамі.

Я разумею, што ў нашай краіне падобных акцыяў бліжэйшым часам не будзе. І не толькі таму, што ў нас няма кітоў. Але і таму, што нашыя выступленні адразу будуць задушаныя. У нас наогул людзям не даюць выказаць свае думкі. Ані наконт людзей, ані наконт жывёлаў. Але - надзея паміраe апошняй.

Хачу сказаць адзінае: я - «за»! Цалкам падтрымліваю Вас у справе подпісаў да старшыні гарвыканкама. Таксама лічу, што трэба адразу звяртацца да ўзгаданых Вамі кіраўніка ДЭПу - Э.Беккера, і да кіраўнікоў ЖЭСаў. Варта рабіць выступленні, ладзіць акцыі. Нешта трэба рабіць!

Трэба дапамагаць безабаронным жывёлам. Няўжо так будзе працягвацца і надалей, грошы пераўтвараюць людзей у забойцаў?! Трэба спыніць гэта!

У мяне ёсць беспародны сабака і дэкаратыўны пацук. Колькі шчасця, цеплыні і радасці прыносяць мне мае сябры штодзень!

**З павагай, Надзея**

**P.S.:** Лічу, што можна сабрацца ўсім, хто выступае за абарону жывёлаў і падтрымаць Юрыя Аўчыннікава.

* * *

**Старшыні Гарадзенскага гарвыканкама А.М.Пашкевічу**

Мы звяртаем Вашую ўвагу на балючую праблему, якая шмат гадоў існуе ў грамадстве, патрабуе неадкладнай і карпатлівай працы па яе развязанні і якая застаецца цалкам па-за ўвагай мясцовых уладаў. Гаворка ідзе пра жорсткасць, бязлітаснасць многіх людзей да жывёлаў і наогул усяго жывога. Стала звычайнай з'явай, што кошку або сабаку возьмуць у хату, а потым праз некаторы час выкінуць на вуліцу або завязуць у лес, гэтым самым асуджаючы жывёлу на галоднае, беспрытульнае жыццё на памыйніцах і хуткую смерць. Сабаку, ката, птушку могуць збіць, пакалечыць, замучыць і пры гэтым не баяцца ніякага пакарання, бо няма нават законаў, якія б баранілі жывёлаў, іхняе права на жыццё. Можна зламаць, спілаваць, падпаліць дрэва і таксама не баяцца пакарання. З гэтага ўсё і пачынаецца - сарваць кветку, зламаць галінку дрэва або і само гэтае дрэва, збіць ката ці сабаку не лічыцца злачынствам. Ці варта здзіўляцца, што сярод дзяцей нярэдкія выпадкі садызму ў дачыненні да жывёлаў ды іншых дзяцей.

Улады вырашаюць праблему існавання бадзяжных сабак і катоў дзікунскімі метадамі: супрацоўнікі дзяржаўных установаў (ДЭП, ЖЭС) пазбаўляюць жывёлаў жыцця, дадзенага Богам, страшнымі, лютымі метадамі, аддаючы безабаронных жывёлаў перад смерцю на жудасныя, доўгія пакуты, якія немагчыма перадаць словамі. І гэта напрыканцы дваццатага стагоддзя, у цэнтры Еўропы! Жывёлаў трэба не забіваць, а лячыць, любіць, пастарацца знайсці ім добрых гаспадароў.

Мы пратэстуем супраць антыгуманнага, злачыннага (не па юрыдычных законах, бо такіх законаў на Беларусі няма, а па Боскіх і агульначалавечых маральных законах) бяздзеяння ўладаў у гэтай балючай праблеме і патрабуем:

1) неадкладна на пасяджэнні гарвыканкама разгледзець праблему бязлітаснага стаўлення людзей да жывёлаў і раслінаў;

2) неадкладна спыніць забойства жывёлаў, якіх паводле распараджэння ўладаў забіваюць страшнымі метадамі, пры гэтым многіх з іх пакалечаных, але жывых закідваюць у глыбокія калодзежы на сметніку каля Гожы, дзе яны доўга і пакутліва паміраюць сярод сваіх ужо мёртвых братоў па няшчасці;

3) неадкладна адчыніць прытулак для бяздомных сабакаў і катоў, задача якога - лячыць жывёлаў, даць ім прыстанак да таго часу, пакуль знойдзецца ім новы гаспадар;

4) арганізаваць працу па выхаванні гуманнага, міласэрнага стаўлення да ўсяго жывога праз радыё, тэлебачанне, друкаваныя СМІ, дзіцячыя садкі, школы, іншыя навучальныя ўстановы;

5) запрасіць удзельнічаць у гэтай працы заапарк, рэлігійныя і грамадскія арганізацыі;

6) спрыяць найхутчэйшаму стварэнню і рэгістрацыі грамадскіх арганізацыяў, якія будуць займацца праблемай аховы жывёлаў і прыроды наогул; па просьбе асобаў, якія ствараюць такія арганізацыі, даваць ім памяшканні, выдаткоўваць ільготныя крэдыты для таго, каб яны маглі хутчэй пачаць сваю гуманную дзейнасць.

Мы спадзяемся, што Вы зробіце ўсё магчымае дзеля таго, каб гарадзенцам не сорамна было глядзець у вочы жывёлам.

| Прозвішча, імя | Адрас | Подпіс |
|---|---|---|
| | | |
| | | |

# Ніхто не забыты, нішто не забыта

**Дадзены лозунг быў вынайдзены ў кантэксце памяці абаронцаў Айчыны, палеглых у гады Вялікай Айчыннай вайны. Сказана даволі важка і паважліва. Аднак часцяком, як гэта было ў нядаўнім «светлым мінулым», словы, лозунгі, думкі разыходзіліся з канкрэтнымі справамі. У пацвярджэнне сказанаму можна прывесці досыць вядомы факт: дагэтуль у балотах, дзе праходзіла абарона Волхаўскага фронту, - косці безыменных (а значыць, забытых) чырвонаармейцаў і камандзіраў 2-й ударнай арміі генерала Уласава. І нікому да гэтага справы няма, за выключэннем некалькіх пошукавых атрадаў, якія на добраахвотных пачатках робяць тое, што павінна была зрабіць улада для сваіх выратавальнікаў. Подзвіг твой бяссмертны, імя невядомае - на гэтым можна ставіць кропку і лічыць свой абавязак выкананым. Што вельмі эфектна і было зроблена на Чырвонай плошчы.**

А вось іншая карціна сённяшніх дзён. У суверэннай і незалежнай Латвіі спрабуюць (і даволі небяспечна) канчаткова разабрацца ў сваім далёкім мінулым, расставіць акцэнты і аддаць кожнаму па заслугах. Да гэтага можна ставіцца па-рознаму: з асуджэннем і разуменнем, са злосцю і непрыхаванай радасцю, з нянавісцю і павагай... Але факт застаецца фактам: кожны павінен і будзе адказваць за ўчыненае. Прыклад таму - гучныя справы ў дачыненні да В.Кананава і М.Фартбуха. Няма тэрміну даўніны для злачынстваў, здзейсненых супраць уласнага народа. Рана ці позна за ўсё трэба плаціць.

Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: Кананаў і Фартбух знішчалі грамадзянаў Латвіі, а сёння яны пенсіянеры і жывуць за кошт нашчадкаў альбо забітых. Хіба гэта не блюзнерства? Хаця чаму тут здзіўляцца? «Сістэма» праводзіла селекцыю і натуральны адбор, вынікам якога сталі «вінтыкі» і бяздумныя выканаўцы чужой волі і палітычнай мэтазгоднасці дадзенага моманту.

Расейскія СМІ, як і нашыя, беларускія, заклікаюць да спачування і спагады. Кананаў і Фартбух зараз інваліды, але ў нядалёкім мінулым, поўныя моцы і энергіі, колькіх людзей адправілі яны на той свет. М.Фартбух адным росчыркам пяра накіраваў на Поўнач і за Урал абжываць неабсяжныя прасторы чужой краіны 32 латышскія сям'і ці каля 130 чалавек (32 сям'і ў сярэднім па чатыры чалавекі). Дзе яны зараз? Згінулі, мабыць, усе як адзін, на велічных будоўлях камунізму. А там, напэўна, былі нямоглыя састарэлыя людзі і немаўляты, юнакі і дзяўчаты. Чаму ж іх ніхто не шкадуе? Таму што іх няма ў жывых. Але ёсць пакуль яшчэ даволі шмат партыйных функцыянераў і крываўжэрных выканаўцаў іх волі, па чыёй віне загінулі дзесяткі мільёнаў нашых суграмадзянаў. А ў гэтых выканаўцаў ёсць дзеці і ўнукі, уладкаваныя досыць нядрэнна. З усяго гэтага вынікае простая лагічная выснова: навошта варушыць мінулае і каму гэта патрэбна? Хрушчоўская «адліга» засталася далёка ў мінулым. Гарбачоўская дэмакратыя і галоснасць затуханне не без актыўнага ўдзелу ўладных структураў.

А трэба ўсё гэта ведаць і памятаць нам з вамі, простым грамадзянам, каб не было падобнага надалей, каб пры нашым удзеле і маўклівай згодзе не знішчалася краса нацыі, яе гісторыя. Паглядзіце, да чаго мы дайшлі: кухарка дзяржавай кіравала - нас не паважалі, але агрэсіўнасці і непрадказальнасці баяліся; дырэктар нябдалега саўгаса «руліць» - з нас, нібыта з прыдуркаў, смяецца ўвесь цывілізаваны свет. Урэшце рэшт за ўсё трэба будзе рана ці позна адказваць. «Беспрэдала» і бяспамяцтва быць не павінна.

За гады культу асобы знішчаны дзесяткі мільёнаў людзей - ніхто не адказаў, за выключэннем Берыі. Астатніх не кранулі ды не было каму, бо ў кожнага партыйнага кіраўніка рукі былі па локаць у крыві. Крані аднаго - разбурыцца ўся піраміда, а «сістэма» дапусціць гэтага не магла.

У Беларусі «бясследна знікаюць» вядомыя палітыкі, знішчаюцца нацыянальная культура і мова, праводзіцца каланіяльная палітыка ў дачыненні да тытульнай нацыі, рыхтуецца псеўдазаканадаўчая база інкарпарацыі Беларусі ў склад Расейскай Федэрацыі. І зноў ніхто ні за што не адказвае, вакол - адныя дачаснікі.

Не, сябры-таварышы. Я не заклікаю да пошуку ведзьмакоў, але надыйдзе час - і кожны адкажа ў той ці іншай ступені за ўчыненае. І Латвія першая на постсавецкай прасторы па ўсёй строгасці закону пачала патрабаваць адказу за злачынствы ў дачыненні да ўласнага народа.

**Вячаслаў Шчыткавец, г.Бабруйск**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

Лічыльнікі гарачай і халоднай вады (вытв. Уладзімірскага завода «Точмаш») у камплекце з фільтрамі і вентылямі. Тэл. 72-29-38 (пасля 17.00).

Фартэпіяна «Беларусь» у добрым стане, новую пральную машыну «Мара». Тэл. 5-11-03.

Халадзільнік «Снайге-15Е», б/у, а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

Масквіч-412 на запчастках, б/у; шкло лабавое і задняе; дзверцы ў зборы, задні мост, салон, кузаў, рулявую калонку ды інш. Тэл. 76-53-11.

Пральную машыну-аўтамат (вытв.Германіі), б/у. Танна. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

TV-антэны, карнізы вытворчасці Польшчы, гімнастычную (шведскую) лесвіцу. Танна. Магчыма дастаўка. Тэл. 6-99-43 (пасля 15.00).

Дробную бульбу. Тэл. 44-69-03.

Дачу ў в.Жылічы, побач - бярозавы гай, рэчка Нёман. Тэл. 44-39-53.

Складны ровар; два ложкі ад спальнага гарнітура, б/у; дыпламат; папку для папер; жалюзі з трысьнягу. Тэл. 39-00-49.

Шафу паліраваную, трохстворкавую; пісьмовы стол. Усё б/у. Тэл. 2-77-54.

Фаеркі і пераключальнікі да электрапліт. Тэл. 2-94-94.

Новую электрадрэль. Тэл. 33-13-77.

Беларускія кнігі: Якуб Колас «Збор твораў» у 14-ці тамах; Іван Шамякін «Збор твораў» у 6-ці тамах; Васіль Быкаў «Збор твораў» у 4-х тамах; Іван Навуменка «Збор твораў» у 6-ці тамах ды інш. Дасылаць паштоўкі і звяртацца па спіс астатніх кніг (ад Вас канверт са зваротным адрасам) да А.В.Копаць на адрас: 246024, г.Гомель, вул.Свярдлова,56 альбо тэлефанаваць у Гомель на нумар 3-16-39 (пасля 19.00).

Тэлефон, друкарскую машыну, музычны цэнтр «Рамантыка-201-стэрэо», падстаўку пад акварыум і тэрмарэгулятар да яго, калонкі - 10АС. Тэл. 47-00-16.

Металічную цапліцу. Тэл. 75-33-55.

Вагі магазінныя ў добрым стане (з гірамі), часопісны стол (б/у). Тэл. 31-95-21.

Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 31-77-12.

### КУПЛЮ

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Настольную лямпу, новую альбо б/у, абавязкова - у працоўным стане, невысокую, з выключальнікам, зручную ў карыстанні. Тэл. 6-69-65 (пасля 17.00).

Металічны абруч для заняткаў гімнастыкай, не абавязкова новы. Танна. Тэл. 72-37-14 (працоўны, з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану).

Лінолеум (9 кв.м), дачу альбо дачны ўчастак. Тэл. 6-46-32.

Імпартны лёгкі фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Два-тры лісты хвалістага шыферу і шклапластыка. Тэл. 75-46-23 (пасля 18.00).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзена МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

**Неўрапатолаг першай катэгорыі Я.І.Кухта**
Лячэнне захворванняў астэахандрозу пазваночніка (радыкуліт, пляксітаў, перыартрозаў ды іншых). Звяртацца на адрас: вул.Багуцкага, 2а (інтэрнат КБМ), канцавы прыпынак аўтобусаў N8, N15. Магчыма лячэнне па выкліку на дом. Тэл. 39-96-76 (да 9.00 і пасля 20.00); 39-00-01 (у любы зручны час). Ліц. N581 МАЗ ад 25.03.1998 да 2003 года.

Кантрольныя і курсавыя работы (энергазабеспячэнне, энергазберажэнне). Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30, запрасіць Васіля).

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Балгарская, беларуская мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

Ахвотны атрымаць новую кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленку на адрас: 220131, г.Менск, п/с 268. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу М.Ермаловіча заўжды можна набыць у сядзібе ТБМ, што па вуліцы Румянцава,13.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, паважаныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

### ЗНАЁМСТВЫ

Інтэлігентная, стройная бландзінка пазнаёміцца для сустрэчаў з надзейным мужчынам, які мае кватэру для сустрэчаў. Пра сябе: 40 гадоў, рост - 164 см. Матэрыяльна і жыллём забяспечана, але жыву не адна. Знак Задыяка - Рыбы. Творчая прафесія. Пісаць: 230024, г.Гродна, да запатрабавання, п/п КН 0196009.

Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту, рост якога 176 см, жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіка, 16-7066 (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.

Для стварэння сям'і жадаю знайсці прыстойную жанчыну, якая мае жыллёвую плошчу. Пра сябе: узрост - 33 гады, рост - 165 см; жанаты не быў, па нацыянальнасці - беларус, па гараскопу - Скарпіён. Чакаю лісты на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

З сур'ёзнымі намерамі пазнаёмлюся з жанчынай да 32 гадоў. Маю працу, жыллё, адукацыю. Пісаць: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, прад'яўніку вайсковага білета НБ N2646240.

Прыбавны заможны мужчына 32/177/70 пазнаёміцца з цікавай заможнай жанчынай для прыемных сустрэчаў. Пажадана фота. Пісаць на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п КН 0171074.

### ВІНШАВАННІ

Шаноўны *Мікола Маркевіч!* Віншуем Вас з Днём народзінаў! Жадаем шчасця і здароўя, поспехаў і ўдачы! Няхай Вам будзе горача толькі ад чароўнага кахання! Добрага Вам настрою, аптымізму, душэўнай раўнавагі і ўпэўненасці ў сваіх сілах!

**Калегі па працы**

Дарагі хросны і кум *Іван Чарняк!* Віншуем цябе з 40-годдзем!

Жадаем поспехаў, кахання і ўдачы ўсюды і ва ўсім!

*Мы ўзрост твой лічым*
*не гадамі,*
*А дабратой, і ласкай,*
*і цяплом.*
*Хай будзе ўсё табе*
*узнагародай:*
*Здароўе, шчасце*
*і прыхільнасць сваякоў!*

**Хрэснік Генадзь і сям'я Чарняк**

Шчыра віншую каханую жонку *Алену* з 26-годдзем. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы, здзяйснення ўсіх мараў!

**Аляксей**



### МЯНЯЮ

Трактар на аўтамабіль альбо прадаю. Звяртацца на адрас: г.Гродна, завулак Даватара, д.8а, кв.14.

Паўдома на добраўпарадкаваную кватэру ці прадам драўляны дом у в.Касцевічы (2 км ад горада). Тэл. у Ваўкавыску 5-16-52.

### ПАСЛУГІ

Рэпетытарства, кантрольныя і курсавыя работы па беларускай мове і літаратуры. Тэл. 6-67-55.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

### РОЗНАЕ

Здаю двухпакаёвую кватэру з мэбляй і тэлефонам. Передаплата. Тэл. 2-85-26.

Просьба да тых, хто знайшоў дакументы на імя Пятра Міхайлавіча Бейма, патэлефанаваць на нумар 31-26-26.

Дэманстрацыя беларускага відэа, аўдыё, кніжак, часопісаў, вырабаў з керамікі і саломкі праводзіцца ў сядзібе ТБМ у Менску (Румянцава, 13) з 14.30 да 19.00, у сераду з 11.00 да 15.00, у суботу з 17.00 да 19.00, нядзеля - выхадны. Прагляд відэафільмаў - па суботах а 18-й гадзіне.

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ - справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.
Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: 230023, г.Гродна, вул.Дзяржынскага,32;
р/р 3015000000599 у філіяле N404 ААБ «Беларусбанк» г.Гродна код 691 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца). Тэлефоны: 72-00-75, 75-01-08.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

23 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Сумесная выстава мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава мастакоў-удзельнікаў III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў «Фэст-2000».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батыку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 6 ліпеня - «Казкі лялечніка-бадзягі». Пачатак спектакля ў 11.00. Закрыццё сезону.

**Лядовы палац спорту.** 29 чэрвеня - «ГрандАрт» і парк-клуб «Мінск» прадстаўляюць «Парк Горкага», «Лепрыконсы», «Акіян Эльзы», «Грын Грэй» у праграме «Міленіум-2000». Пачатак у 19.00.

**Драмтэатр.** З 26 чэрвеня па 10 ліпеня - гастролі Гомельскага абласнога драматычнага тэатра ў Гродне. 29, 30 чэрвеня і 1 ліпеня - «Сямейны партрэт з чужымі». Пачатак у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.





ПЯРЭСТЫ КУТ

# Крыжакам не скарыліся!

**Два дні - 24 і 25 чэрвеня - у старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага праходзіў Фэст сярэднявяковай культуры «Наваградак-2000». Каля 500 удзельнікаў ваенна-гістарычных клубаў з Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расеі і Эстоніі сабраліся ў Наваградку, каб на нейкі час быццам бы вярнуць яго ў XIV стагоддзе. Найбольшую колькасць рыцараў-байцоў прадставіла на фестываль 21 беларускае ваенна-гістарычнае моладзевае аб'яднанне - з Ліды, Менска, Магілёва, Брэста, Пінска, Гродна, Полацка, Бабруйска, Баранавічаў, Гомеля, Рэчыцы і Наваполацка.**

У першы дзень на фэсце адбыліся пастановачныя баі, конныя турніры і рыцарскія сечы, ваярскія гульні і спаборніцтвы, выступленні музычных груп і выканаўцаў, а таксама мініяцюры ў пастаноўцы тэатра беларускай драматургіі «Вольная сцэна». Увечары адбыліся групавая бойка (бугурт) і вялікае фестывальнае прадстаўленне з выкарыстаннем піратэхнікі.



Кульмінацыяй свята стала інсцэніроўка падзеяў 1314 года, калі вялікае войска крыжаносцаў на чале з магістрам Тэўтонскага ордэна Генрыхам фон Плоцке аблажыла Наваградскі замак і пачало яго штурмаваць з дапамогай каменякідаў. Імітацыя тых падзеяў праходзіла ў другі дзень каля Замкавай гары, дзе ў сярэдзіне вякі знаходзілася самая магутная і непрыступная сямівежавая крэпасць ВКЛ. Для стварэння гістарычна дакладнай абстаноўкі на Замкавай гары была ўзведзена частка сцяны крэпасці, якая злучыла недабудаваную вежу «Дазорац» з руінамі вежаў «Шчытаўка» і «Касцельная». Пасля рыцарскага параду над полем бітвы наступіла цішыня.

Ваяры маліліся і прасілі Усявышняга падтрымаць іх у баі. Пад гукі старажытных батальных маршаў, баявых труб і ражкоў, воклічы камандзіраў і трывожныя ўдары мячоў аб шчыты войска крыжакоў на чале з Генрыхам фон Плоцке (яго ролю выконваў камандзір сталічнага клуба «Ордэн Сэрца Дракона» Дзмітрый Нісцюк) рушыла з рова, які акружае валы замка, на штурм яго сцэнаў пры падтрымцы дзвюх каменякідальных прыладаў. Двойчы абаронцы крэпасці на чале з камандзірам Наваградскага гарнізона (яго ролю выконваў кіраўнік сталічнага клуба «Княжы Гуф» Фёдар Міхееў) адкідалі праціўніка ад сцэнаў крэпасці. А калі крыжаносцы рыхтаваліся да трэцяга штурму, атрады ВКЛ выйшлі з крэпасці і, не даўшы ворагу апаматацца, разграмілі яго. Панараму бітвы назіралі дзесяткі тысяч жыхароў Наваградка і гасцей горада.

Фестываль сярэднявяковай культуры ў Наваградку павінен прыцягнуць да сябе ўвагу шырокіх колаў вучоных, творчай інтэлігенцыі і садзейнічаць адраджэнню гістарычнага духу гэтага горада - першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). Такую думку выказала дырэктар Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Вяршыцкая, якая была сярод арганізатараў гэтага свята сярэднявяковай культуры.

Каментуючы вынікі фестываля, Тамара Вяршыцкая адзначыла ролю ў яго арганізацыі мясцовага прадпрымальніка Пятра Сільвановіча, за сродкі якога будзе адноўлена васьмігранная вежа на Малым замку XVI стагоддзя. Т.Вяршыцкая таксама паведаміла, што з 1998 года рэалізуецца праект рэстаўрацыі замка на дзядзінцы. Сёлета, у прыватнасці, мяркуецца аднавіць сцены і дах Касцельнай вежы. Пасля аднаўлення замка ў ім плануецца адкрыць музей тысячагадовай гісторыі Наваградка.

Арганізатарамі фестываля выступілі ствараемая цяпер рэспубліканская ваенна-гістарычная канфедэрацыя «Lithvania et Ruthenia» і Наваградскі гісторыка-краязнаўчы музей пры падтрымцы сталічнага салона-магазіна «Kettler sport», кампаніі «Трэвелінк інвест», ЗАТ «Офісныя тэхналогіі» і Лідскага філіяла АТ «Прыорбанк».

**Марат Гаравы**



**На здымках: Традыцыі ваяроў Вялікага Княства жывуць і перамагаюць! Схіл Замкавай гары. Наваградак. 25 чэрвеня**



1. Традыцыйная рыбалоўная прылада. 2. Прыстасаванне для нагі конніка. 3. Сарочка, рубашка. 4. Бандарны выраб. 5. Збудаванне накшталт шахты альбо свідравіны для здабычы грунтавых водаў. 6. Упрыгожанне ў выглядзе абруча з каштоўных каляровых металаў, якое насілі на шыі. 7. Прылада для здзірання кары з бярвення.

**Адказы на галаваломку, змешчаную ў N22 (469):**

1. Лук. 2. Гляк. 3. Пінск. 4. Полацк. 5. Пранік. 6. Портык. 7. Вільчык. 8. Падмурак. 9. Пярсцёнак.

ТЭСТ ДЛЯ МУЖЧЫНАЎ

# Які з Вас сексолаг?

**Што Вы ведаеце пра жанчын? Тое, што яны баяцца змеяў, здрады і сексуальных маньякоў, любяць незвычайныя кветкі, ласункі, раманы пра каханне, Крыстафера Ламберта, мараць адпачыць на Мальдзівах, доўга збіраюцца і ўвесь час ірвуць калготкі. Вось прыкладна і ўсё. Жадаеце пашырыць свой кругагляд і крыху рассеяць туман - выберыце па аднаму варыянту адказу на прапанаваныя пытанні.**

**1. Колькі часу дастаткова жанчыне для папярэдніх ласк?**

а) 10 хвілінаў; б) ад 15 да 20; в) чым болей, тым лепей; г) як і мужчыне; д) столькі ж, колькі мужчыне, каб пафарбаваць гараж і адрэгуляваць запальванне.

**2. Вялікія грудзі больш адчувальныя да пяшчоты, чым маленькія?**

а) так, у іх жа большая плошча; б) не; в) мм-м...грудзі?; г) яны не з'яўляюцца эрагеннай зонай.

**3. Колькі разоў на дзень жанчына думае пра секс?**

а) ніводнага, яна падлічвае з'едзеныя калорыі; б) адзін ці два; в) ад 4 да 8; г) 24; д) увесь час, калі яна рэдагуе эратычнае выданне альбо працуе па выкліку.

**4. Які працэнт жанчын купляе касеты з эротыкай?**

а) 2 працэнты, астатнія бяруць порна; б) 10-20 працэнтаў; в) 5-10; г) меней за 2; д) не купляюць, бо саромеюцца.

**5. Колькі сексуальных партнёраў бывае ў большасці жанчын з 18 гадоў?**

а) 1-4; б) 5-10; в) у год не менш як 2; г) лічба, якую яны называюць плюс яшчэ 10; д) невядома, ад іх праўды не даб'ешся.

**6. Сярэднестатыстычныя жанчына прагне сексу...**

а) непасрэдна перад крытычнымі днямі; б) прыкладна праз тыдзень пасля гэтых дзён; в) а + б; г) падчас гэтых дзён; д) калі Вы жадаеце паглядзець футбольны матч ці нешта іншае па тэлебачанні.



**7. Які працэнт тых жанчын, якія заяўляюць, што заўсёды зведваюць аргазм падчас сексуальных кантактаў?**

а) столькі ж, колькі лічаць Мікі Рурка сексуальным мужчынам; б) 29 працэнтаў; в) 69; г) 99; д) жанчыны ніколі не займаюцца прытворствам.

**8. Калі жаночае цела не будзе ўтвараць гэтага ў дастатковай колькасці, то яна можа страціць інтарэс да сексу. Размова пра...**

а) тэстастэрон; б) адрэналін; в) эстраген; г) пастэрон; д) ферамон.

**9. Памер жаночага клітара...**

а) прыблізна 0,5 см; б) недзе 1 см ; в) каля 1,8 см; г) залежыць ад глыбіні похвы; д) гэта да справы дачынення не мае.

**10. У колькі разоў павялічваецца ў памерах клітар пры ўзбуджэнні жанчыны?**

а) у 1,5 раза; б) ні ў колькі; в) амаль у тры разы; г) ён пэмяншаецца.

**Правільныя адказы:**

**1б, 2б, 3в, 4в, 5а, 6в, 7б, 8а, 9а, 10а**

**Вынікі:**

Калі ў Вас **ад 1 да 3 правільных адказаў** - пара пачынаць глядзець хаця б агульнаадукацыйныя праграмы, прымаць удзел у эратычных ток-шоу, чытаць тое-сёе пра «гэта».

Калі з правільнымі ў Вас супала **ад 4 да 6 адказаў** - няма чаго саромецца. Урэшце рэшт, і жанчынам невядома, чаму мужчыны так хутка знаходзяць у магазіне тое, што ім патрэбна, добра арыентуюцца на мясцовасці, умеюць укручваць лямпачку і любяць спартыўныя гульні.

Калі ў Вас **ад 7 да 10 правільных адказаў**, прыміце мае віншаванні, цісну Вам...руку. Вы проста выдатны сексолаг! Альбо... жанчына?

# Анекдоты

- Ну што мне рабіць? Так мару ажаніцца, але ніяк не дагаджу сваёй маці: ніводная з маіх дзяўчат ёй не падабаецца...
- А ты знайдзі такую, што падобная да яе.
- Знайшоў, дык бацька закацiў скандал...

* * *

- Я магу стаць фотамадэллю?
- Не, толькі фотаробатам.

# Гараскоп

**♈ Баран (21.03-20.04).** Будзьце паўважлівей у фінансавых аперацыях і асцярожней са спіртным. Інакш доўга будзеце шкадаваць.

**♉ Бык (21.04-20.05).** Паспрабуйце пазбегнуць непаразуменняў у сям'і. Крыху болей такту, павагі і цеплыні не пашкодзіць.

**♊ Блізняты (21.05-21.06).** Ніякай нервознасці і нястрыманасці на гэтым тыдні! Толькі максімум увагі і канцэнтрацыі!

**♋ Рак (22.06-22.07).** У сферы фінансаў атмасфера злёгку напружаная, але толькі злёгку. Пазбягайце спрэчак, проста адчувайце асалоду жыцця!

**♌ Леў (23.07-23.08).** Надышоў час вызначыць асноўныя мэты на бліжэйшую будучыню і пачаць рэалізоўваць планы ўжо зараз.

**♍ Панна (24.08-23.09).** Памятайце: рэзервы Вашага арганізму не бязмежныя. Таму, як надарыцца магчымасць - адпачывайце, і чым далей ад дома, тым лепей.

**♎ Шалі (24.09-23.10).** Не палохайцеся карэнных зменаў - бо хто ведае, як хутка з'явіцца магчымасць штонебудзь змяніць у Вашым жыцці.

**♏ Скарпіён (24.10-22.11).** Варта з'ездзіць і адпачыць дзесьці з каханым чалавекам. Тым больш, што фінансы пакуль дазваляюць.

**♐ Стралец (23.11-21.12).** Тыдзень будзе напоўнены разнастайнымі эмацыйнымі перажываннямі, звязанымі з праблемамі сваякоў.

**♑ Казярог (22.12-20.01).** Службовыя абавязкі будуць у асноўным супадаць з асабістымі інтарэсамі. Таму ёсць верагоднасць дамагчыся значных поспехаў.

**♒ Вадалей (21.01-19.02).** Спакой, толькі спакой спатрэбіцца Вам на выхадных. Кантралюйце свае жаданні.

**♓ Рыбы (20.02-20.03).** Душэўны ўздым, які абяцаюць Вам зоркі, азнаменуецца некаторымі пазітыўнымі зменамі ў асабістым жыцці.

**ПАГОНЯ**
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by

Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2 073 Наклад 7 110
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 28.06.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,** камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**